ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 41 (1575) | Пятніца, 26 мая 1961 года | Цана 4 кап.

## АКТЫЎНА ЎМЕШВАЦЦА Ў ЖЫЦЦЁ

АПУБЛІКАВАНЫ ў «Коммунисте» скарочаны пераказ выступленняў М. С. Хрушчова па пытаннях ілтаратуры і мастацтва выклікае шмат думак. Аб кожнай з узнятых у ім праблем можна было б выказаць нямала сваіх меркаванняў.

Мне, у прыватнасці, хочацца сказаць некалькі слоў пра тыя мясціны цікавага дакумента дзе М. С. Хрушчоў гаворыць аб надзвычай важнай ролі савецкай літаратуры і мастацтва ў справе камуністычнага выхавання мас і аб адказнай і пачэснай ролі літаратурнай крытыкі.

Усіх нас шчыра радуе тая высокая ацэнка, якую М. С. Хрушчоў даў ролі савецкай інтэлігенцыі, у тым ліку і пісьменнікаў, у стварэнні маральна-палітычнага адзінства сацыялістычных нацый. Гэта азначае, што цяпер літаратура і мастацтва яшчэ больш прасякнуты духам партыйнасці, што яны яшчэ больш наблізіліся да жыцця, да спраў, дум і спадзяванняў народа, сталі яшчэ больш актыўнымі памочнікамі партыі ў яе ідэалагічнай рабоце. У сваім артыкуле М. С. Хрушчоў гэтую думку падкрэслівае не адзін раз. Ён гаворыць, што цяпер павысілася роля літаратуры і мастацтва як настаўнікаў жыцця, што яныператварыліся ў дзейсны сродак выхаваўчай работы. Нельга не далучыцца ўсім сэрцам да поўных глыбокага перакавання слоў М. С. Хрушчова аб тым, што «праз лепшыя творы літаратуры і мастацтва людзі вучацца правільна разумець і змяняць жыццё, засвойваюць передавыя ідэі, фармуюць свой характар і пераканaнні гэтак жа натуральна і непрыкметна, як дзіця вучыцца гаварыць».

З прызнання і сцвярджэння такога высакароднага грамадскага прызначэння літаратуры і мастацтва вынікаюць і тыя актуальнейшыя задачы, што стаяць цяпер перад пісьменнікамі і мастакамі.

Намі яшчэ далёка не ўсё зроблена, часам і робіцца не так, як трэба. Яшчэ ёсць у нас аўтары, якія маюць схільнасць пакапацца на задворках нашага жыцця, паказаць яго ў скажоным выглядзе, аўтары, якіх цягне да моднага на Захадзе скепсісу буржуазнай літаратуры. У гэтай сувязі я не магу не прыгадаць адну з п'ес, прадстаўленых на конкурс, прысвечаны 40-й гадавіне Ленінскага камсамола Беларусі. Яна належыць чалавеку, які гатовы прыпісваць кожнаму тыя мярзотнасці, якія, мабыць, сядзяць у ім самім. П'еса не апублікавана. І я, на жаль, не магу назваць ні яе, ні яе аўтара. Гэтая п'еса выклікала ўсеагульнае абурэнне журы і была адхілена па ідэйных матывах. Такая літаратура нам не патрэбна. «Тыпізацыя», якая мае месца ў гэтай п'есе. вельмі далёка ад мастацтва.

«Нам патрэбны такія кнігі, кінафільмы, спектаклі, творы музыкі, жывапісу і скульптуры, — гаворыць М. С. Хрушчоў, — якія выхоўвалі б людзей у духу камуністычных ідэалаў, абуджалі ў іх пачуццё захаплення ўсім выдатным і прыгожым у нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, нараджалі б у людзях гатоўнасць аддаць свае сілы, веды і здольнасці служэнню свайму народу, жаданне браць прыклад са станоўчых герояў твораў і выклікаць непрымірымасць да ўсяго антыграмадскага, адмоўнага ў жыцці. Патрэбны такія таленавітыя, яркія кнігі, якімі людзі зачытваліся б, патрэбны такія фільмы, якія людзі глядзелі б з прыемнасцю, патрэбна такая музыка, якую слухаць было б асалодай».

Гэта — праграма савецкай літаратуры і мастацтва. Яе і прытрымліваюцца савецкія пісьменнікі і мастакі. Яны бачаць у нашым жыцці перш за ўсё прыгожае, паэтызуюць у нашых савецкіх людзях рысы чалавека камуністычнага заўтра, вучаць сваімі творамі працаваць, змагацца за яшчэ больш прыгожую будучыню.

Пры гэтым ніякай лакіроўкі нам не патрэбна, наадварот, нам патрэбна суровая праўда аб супярэчнасцях, аб барацьбе новага са старым, аб часам нялёгкай перамозе новага. Пішыце, сябры, гэтую праўду ў розных манерах і жанрах — і ў пафасных вершах, і на прасторных старонках раманаў, і ў сатырычных п'есах, і ў дасціпных камедыях. Справа не ў жанры, а ў тым, каб у аснове твора заўсёды было сцвярджэнне савецкай рэчаіснасці, савецкай этыкі і маралі, выкараненне перажыткаў старога свету са свядомасці людзей.

Што ж неабходна пісьменніку і мастаку, каб іх творы былі глыбока праўдзівыя? «Каб праўдзіва адлюстраваць у творах мастацтва нашу сучаснасць ва ўсёй яе велічы, — гаворыць М. С. Хрушчоў,— мастак павінен знаходзіцца ў гушчы жыцця, чуйна ўлаўліваць і правільна разумець новае, вызначальнае ў нашай рэчаіснасці, глыбока ведаць савецкага чалавека, яго думы і спадзяванні, пачуцці і імкненні. Інакш кажучы — мастак павінен быць актыўным удзельнікам будаўніцтва камуністычнага грамадства».

У сваім артыкуле М. С. Хрушчоў падкрэсліў, што ў барацьбе супраць недахопаў у рабоце і ў жыцці людзей Камуністычная партыя выкарыстоўвае такую выпрабаваную зброю, якой з'яўляецца прынцыповая крытыка і самакрытыка. Зразумела, што гэта ў поўнай меры датычыць і літаратурна-мастацкага працэсу. М. С. Хрушчоў надае вялікае значэнне літаратурна-мастацкай крытыцы, якая заклікана «актыўна дапамагаць пісьменнікам і дзеячам мастацтва ў стварэнні яркіх, таленавітых твораў аб нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, усямерна падтрымліваць іх імкненні ўвасобіць у мастацкіх вобразах вялікія справы, гераізм і мужнасць, высокае маральнае і духоўнае аблічча савецкіх людзей — будаўнікоў камунізма».

Актыўная дапамога, вядома, мае на ўвазе і прынцыповасць, і патрабавальнасць. Не павінна быць месца неаб'ектыўнасці, нядобразычлівасці, наклейванню ярлыкоў, розным неабгрунтаваным прычэпкам.

У сваю чаргу з боку пісьменнікаў павінна быць такое ж прынцыповае стаўленне да крытыкі. На жаль, вось гэтай апошняй якасці некаторым нашым беларускім пісьменнікам бракуе. Пра творы некаторых празаікаў стала наогул немагчыма гаварыць, бо кожную крытычную заўвагу яны ўспрымаюць як злосны выпад. Прычым, назіраецца гэта не столькі з боку «вядучых», колькі з боку «ўслед ідучых». Называць іх у гэтым артыкуле няма асаблівай патрэбы. А вось прывучыць іх паважаць крытыку трэба было б. У гэтым зацікаўлены ўвесь пісьменніцкі калектыў. У адваротным выпадку мы не здолеем шчыра, праўдзіва гаварыць пра якасць твораў нашай літаратуры.

Датычыць гэта, паўтараю, асобных людзей. У цэлым жа наш пісьменніцкі калектыў умее паважаць крытыку і прыслухоўвацца да яе. Развіццю літаратурнай крытыкі ў рэспубліцы спрыяе і тая акалічнасць, што наладжана справа выдання прац крытыкаў і літаратуразнаўцаў.

Беларуская пісьменніцкая арганізацыя ідзе насустрач XXII з'езду КПСС згуртаванымі радамі, нашы пісьменнікі поўны жадання ствараць новыя значныя творы і аб поспехах савецкага народа ў камуністычным будаўніцтве, і аб яго мужнасці ў часы суровых ваенных выпрабаванняў. Маральна-палітычнае адзінства пісьменніцкага атрада — таксама адзнака часу, яскравы паказчык таго, што і творчая работа нашых пісьменнікаў і іх узаемадачыненні ўсё больш прасякаюцца духам партыйнасці.

Артыкул М. С. Хрушчова заахвочвае кожнага з нас актыўна ўмешвацца ў жыццё, дапамагаць партыі, народу ў вырашэнні велічных задач сямігадовага плана.

**Янка ШАРАХОЎСКІ.**

## ПІСЬМЫ

З АЗЁРНАГА КРАЮ

## ЯК МОКРАЕ ГАРЫЦЬ...

Вёска Опса знаходзіцца на бойкім месцы. Праз яе праходзіць дарога на Відзы — Маладзечна, на Друсвяты, Браслаў. Цяпер у вясновай бела-ружовай квецені садоў вёска здаецца асабліва прыгожай і памаладзелай. Ідучы па вуліцы, бачыш новыя дамы, клумбы ля хат, з якіх выбіваюцца на свет мята, шаўковая травіца ды касачы, бачыш бялюткія фіранкі ў вокнах, і хораша робіцца на душы. Ва ўсім відаць дастатак.

Опса — культурны і адміністрацыйны цэнтр сельсавета. Ёсць тут сярэдняя школа, бальніца, пошта, сельсавет, млын і магазіны. Не апошняе месца займае кнігарня. Непадалёку, у маляўнічай мясцовасці, размясцілася школа-інтэрнат. У вёсцы вялікі атрад сельскай інтэлігенцыі — галоўным чынам настаўнікі, медыцынскія работнікі, служачыя.

Насупраць сельмага, у цэнтры вёскі, цэлы ансамбль белых будынкаў, на двары — спартыўная пляцоўка. Гэта — школа.

А вось двухпавярховы будынак з балконам. Тут, сказалі мне, Дом культуры. Толькі ён нешта мала падобны па вонкаваму выгляду на такую ўстанову. Ні лозунга, ні плаката, ні стэнда паблізу не відаць. Нават шыльды няма.

Здзівіла і нейкая нязвыклая для Дома культуры цішыня ды яшчэ ў выхадны дзень.

На першым паверсе дзверы шчыльна зачынены. А што на другім? У невялічкім пакойчыку чацвёра мужчын гуляюць у шашкі. Дваім, відаць, не шанцавала, і яны, злосна насунуўшы шапкі, зацята курылі. Попел і недакуркі на падлозе сведчылі аб тым, што гуляюць яны тут не першую гадзіну. Больш у клубе нікога не было.

Праз якую гадзіну прыйшла бібліятэкарка-масавік Наталля Мікшта. У маленькім пакойчыку бібліятэкі ціха-ціха. Мінае гадзіна, другая, трэцяя... У бібліятэку за гэты час прыйшоў толькі адзін чытач. Мы сядзім з Наталляй, паціху гутарым. Яна няёмка сябе адчувае. Дырэктара Дома культуры Мікалая Халімоненкі няма. Куды ён знік — Наталля не ведае, а можа, не хоча сказаць. Чытальная зала, дзе павінны быць газеты і часопісы, зачынена і ключ чамусьці ў Халімоненкі. Значыць, калі зойдзе калгаснік, няхай чакае, пакуль вернецца дырэктар, а калі Мікалай Васільевіч не прыйдзе ў клуб, як было ў нядзелю 14 мая, газеты і часопісы ніхто не атрымае.

Наталля бярэ дзённік і неяк няўпэўнена інфармуе мяне, што сёлета праводзілася ў Доме культуры:

— У лютым адбылася канферэнцыя чытачоў па раману Івана Шамякіна «Крыніцы». Добра прайшоў тэматычны вечар, прысвечаны памяці Леніна, і «літаратурны суд» па аповесці Ул. Цендракова «Цудадзейная». І яшчэ разам са школай правялі збор дружыны на тэму «Кніга — друг дзяцей».

І ніводнай іскрынкі не загарэлася ў вачах Наталлі. А гаворка ж ішла пра работу, да якой нельга ставіцца абыякава.

— А як Дом культуры дапамагаў калгаснікам у дні веснавой сяўбы? Як вы прапагандуеце рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС?

— Вось вітрыну зрабілі — «Навінкі сельскагаспадарчай літаратуры», — адказвае Мікшта. — Ну, яшчэ ходзім у брыгады, на ферму... кніжкі носім, газеты чытаем, гутаркі праводзім...

Але што канкрэтна робяць яна і Халімоненка ў брыгадах і на ферме, бібліятэкарка не сказала. І хто сёння першы ў калгасе па надоях малака, якая брыгада лічыцца перадавой на веснавой сяўбе, не ведае Наталля. Мо' таму поспехі перадавых людзей калгаса не знаходзяць адлюстравання ў клубе. Не відаць іх прозвішчаў у бюлетэнях, «Маланках», на Дошцы гонару, не змяшчаюцца расказы аб перадавым вопыце ў насценнай газеце.

Гаворка зайшла аб тым, што ў рэспубліцы цяпер праходзіць грамадскі агляд сельскіх і калгасных клубных устаноў, што кожны клуб і Дом культуры павінны рэгулярна выпускаць вусныя часопісы, насценныя газеты, «Баявыя лісткі»; праводзіць не менш як дзве — тры лекцыі ў месяц на палітычныя, сельскагаспадарчыя, навукова-атэістычныя тэмы, што трэба штодзённа прапагандаваць вопыт лепшых калгаснікаў, наладжваць кожны тыдзень вечары адпачынку, дыспуты, конкурсы, спартыўныя вечары.

Наталля Мікшта з усім пагаджаецца. «Вядома, усё гэта вельмі патрэбна, і мы будзем абавязкова займацца ўсім гэтым», — запэўнівае бібліятэкарка. Але ў тым, як гэта сказана, не адчуваецца ўпэўненасці. А ў вачах, позірк якіх яна хавае, можна было ўлавіць адчуванне нявер'я ў свае сілы.

І міжволі прыгадаліся словы адной дзяўчыны, сказаныя на вуліцы: «Нудна там». Лепш і не скажаш. Хто ж будзе хадзіць у Дом культуры, калі нават самадзейныя гурткі разваліліся. Былі раней харавы і танцавальны гурткі.

Дом культуры адарваны ад жыцця калгаса. У ім нават элементарнага парадку няма. У памяшканнях брудна, вокны, відаць, нямытыя гады два, па кутках смецце ды павуцінне. Двор не ўпарадкаваны—няма клумбаў, не пасаджаны кветкі. І гэта называецца асяродак культуры.

Мы цвёрда перакананы, што ва ўсім вінаваты дырэктар Дома культуры тав. Халімоненка—чалавек, сам далёкі ад культуры. Раней ён працаваў настаўнікам, але непрыстойна сябе паводзіў, п'янстваваў. Нельга было такому даваць выхаванне дзяцей. Тады Халімоненку ўзялі працаваць у райком партыі, а пасля — у прамкамбінат. І там ён занядбаў работу. З паўгода нідзе не працаваў, абіваў парогі раённых арганізацый. Нарэшце, аддзелу культуры прапанавалі ўзяць яго на работу. І вось якая карысць з гэтага.

У Браслаўскім раёне гэта не адзінкавы прыклад. Замест умацавання клубаў, бібліятэк добрымі кадрамі, сюды часам трапляюць выпадковыя людзі. Працавала ў Далёцкім сельсавеце Ганна Бялюн. Пасаду яе скарацілі. Трэба ж чалавеку недзе працаваць. А тут якраз месца выслабанілася ў Мілашэўскай бібліятэцы. Ніхто не ўзяў пад увагу, што Бялюн скончыла толькі сем класаў, што не мае яна ніякіх здольнасцей да бібліятэчнай работы. А вынік які? Пасада занята, а работы — кот наплакаў.

Культасветустановы — важны ідэалагічны ўчастак. Яны закліка745 ны выхоўваць чалавека камуністычнага грамадства, павышаць яго веды, садзейнічаць яго культурнаму росту. І зразумела, што ва ўстановах культуры павінны працаваць людзі, якія маюць як мінімум сярэднюю адукацыю і пэўныя здольнасці—могуць спяваць, іграць, танцаваць, нарэшце, тыя, хто любіць гэту работу, для каго яна стала прызваннем у жыцці. Так, іменна прызваннем у жыцці. Аддзелу культуры, вядома, нялёгка падбіраць такіх работнікаў, тым больш, што нашы спецыяльныя навучальныя ўстановы яшчэ выпускаюць надзвычай мала такіх спецыялістаў. Значыць, выхад адзін: трэба на месцы шукаць здольную моладзь, якой да спадобы работа ў культасветустановах.

Між тым, абыякавае стаўленне да справы часта выяўляецца і самім аддзелам культуры, і іншымі раённымі арганізацыямі. Яшчэ і дагэтуль жыве няправільная думка, што працаваць ва ўстановы культуры можна пасылаць любога чалавека. Што ж там асаблівага: выдай кніжку, запішы яе ў фармуляр, увечары клуб адчыні, а пасля зачыні, і ўсё.

А ў выніку сярод культасветработнікаў раёна вельмі многа такіх, якія, скажам прама, не на сваім месцы. Незакончаную сярэднюю адукацыю мае, напрыклад, дырэктар раённага Дома культуры Аўгуст Фёдаравіч Ламберт. Ён нідзе, не вучыцца, не павышае сваіх ведаў. Аўгуст Фёдаравіч хворы чалавек, яму цяжка выязджаць у сельскія клубы і дамы культуры. Ды і самадзейнасці ён не можа нічым памагчы, бо арганізатарскіх здольнасцей не мае. Застаецца яшчэ гаспадарчая дзейнасць. Але і тут у яго не ўсё як след ладзіцца. Аўгуст Фёдаравіч у свой час быў планавікам. Ну, і няхай бы працаваў чалавек. Гэта ж яго прафесія. А да культуры ён мае вельмі далёкае дачыненне. Ужо колькі год ідзе пра гэта гаворка і ў райкоме партыі і ў райвыканкоме, але ўсё застаецца па-ранейшаму.

Раённы Дом культуры фактычна выконвае функцыі гарадскога. Ён не аказвае метадычнай дапамогі калгаснай самадзейнасці. І не выпадкова ў Опсаўскім сельскім Доме культуры і ў некаторых іншых культасветустановах справы не ладзяцца.

Нас крыху здзіўляе, чаму загадчыца аддзела культуры Кацярына Логінаўна Шапо — энергічны, прынцыповы работнік, добры арганізатар—мірыцца з недахопамі.

Я пабывала ў чатырох сельсаветах раёна і пераканалася, што трэба больш сур'ёзна і ўдумліва займацца падборам і расстаноўкай кадраў культасветработнікаў, не пасылаць ва ўстановы культуры выпадковых людзей. У раёне 108 работнікаў культасветустаноў, а завочна вучацца толькі дзевяць, хоць 37 чалавек маюць незакончаную сярэднюю адукацыю.

Ажывіць работу ўстаноў культуры, зрабіць яе баявой, надзённай—неадкладная задача. І пачынаць гэтую справу трэба з умелага падбору, расстаноўкі і выхавання кадраў.

**Я. ДАНСКАЯ.**

Браслаўскі раён.

## СРОДКАМІ МУЗЫЧНАГА МАСТАЦТВА

З вялікім хваляваннем чыталі мы ў часопісе «Коммунист» артыкул М. С. Хрушчова «Да новых поспехаў літаратуры і мастацтва».

У гэтым выдатным партыйным дакуменце Мікіта Сяргеевіч зноў праяўляе чулыя клопаты аб росквіце мастацтва ўсіх сацыялістычных нацый.

Нам патрэбны, чытаем мы ў артыкуле, такія кнігі, кінафільмы, спектаклі, творы музыкі, жывапісу і скульптуры, якія выхоўвалі б людзей у духу камуністычных ідэалаў.

Ці можа быць больш пачэсная задача, чым ствараць такія творы!

Савецкі народ рыхтуецца дастойна сустрэць XXII з'езд КПСС. І мы, беларускія кампазітары, павінны з усёй энергіяй і талентам ствараць музыку аб нашай гераічнай рэчаіснасці, аб людзях, якія сваім подзвігам множаць славу сацыялістычнай Радзімы.

Многае зроблена беларускімі музыкантамі за апошні час. Ёсць у нас ва ўсіх жанрах творы, якія заслужылі ўвагу і прызнанне савецкага слухача. Але трэба яшчэ больш рабіць для таго, каб нацыянальная музыка беларускага народа атрымала шырокае прызнанне ўсесаюзнага слухача і за рубяжом.

Мы лічым справай гонару працаваць так, каб сваімі новымі творамі маглі прэтэндаваць на атрыманне Ленінскай прэміі. Гэта найвышэйшы крытэрый каштоўнасці музычных твораў.

Праблемы развіцця савецкага мастацтва, пастаўленыя М. С. Хрушчовым у новым артыкуле, выклікаюць глыбокі роздум ва ўсіх творцаў беларускай музыкі.

Вобраз сучасніка пэўным чынам адлюстраваны ў оперы «Калючая ружа» Ю. Семянякі, у трэцяй сюіце М. Аладава, у кантатах І. Кузняцова, у радзе песень Ул. Алоўнікава, у сімфанічнай і камернай творчасці некаторых аўтараў. Аднак патрабуюцца далейшыя вялікія намаганні кампазітараў, каб наша сучаснасць знайшла высокамастацкае адлюстраванне ў музыцы. Трэба больш чула прыслухоўвацца да пульсу нашага жыцця, глыбей перадаваць у музычных вобразах унутраны свет, думкі і пачуцці будаўніка камунізма.

Артыкул М. С. Хрушчова наносіць сакрушальны ўдар па буржуазнаму дэкадэнцкаму мастацтву, ён будзе спрыяць новаму росквіту савецкай музыкі і тэатра, жывапісу і скульптуры, бо «ў палітыцы партыі, у яе ідэалогіі савецкія пісьменнікі, кампазітары, мастакі, работнікі кіно і тэатра знаходзяць невычарпальную крыніцу творчага натхнення».

**Я. ЦІКОЦКІ,**
**народны артыст СССР, старшыня Саюза савецкіх кампазітараў БССР.**

## Партыя заклікае

Кожнае выступленне М. С. Хрушчова па пытаннях літаратуры і мастацтва натхняе нас, дзеячоў савецкай культуры, на новыя творчыя здзяйсненні ў імя народа.

Патрэбны, гаворыць Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў у артыкуле «Да новых поспехаў літаратуры і мастацтва», такія таленавітыя, яркія кнігі, якімі людзі зачытваліся б, патрэбны такія фільмы, якія людзі глядзелі б з прыемнасцю, патрэбна такая музыка, якую слухаць было б асалодай.

Гэтыя, поўныя пашаны і любві да савецкага гледача і слухача словы з'яўляюцца праграмай дзейнасці і для нашага калектыву — Дзяржаўнага народнага хору, прызванне якога — прапагандаваць беларускую народную песню, народны танец.

У час нашых гастроляў у Венгрыі мы пераканаліся, што беларуская народная творчасць, нацыянальныя песні і танцы зразумелыя і блізкія сэрцу зарубежных сяброў. Яны слухалі нашы канцэрты з сапраўднай асалодай.

Партыя заклікае нас не спыняцца на дасягнутым, не захапляцца поспехамі. Мы павінны нястомна ўзбагачаць рэпертуар хору песнямі аб вялікім працоўным подзвігу будаўнікоў камунізма, новымі танцамі, якія адлюстроўвалі б пачуцці народа, яго быт.

Вядома, якое вялікае значэнне мае ў музычнай прапагандзе харавая творчасць. Яна не толькі дае эстэтычную асалоду, але і падрыхтоўвае слухачоў да лепшага ўспрыняцця буйных музычных форм — сімфанічных, оперных і аратарыяльных. Харавая песня і народны масавы танец выхоўваюць высокія эстэтычныя густы ў савецкіх людзей. І таму мы звяртаемся да беларускіх кампазітараў — прафесіянальных і самадзейных — больш дапамагаць нам у прапагандзе народнай музычнай творчасці.

Артыкул М. С. Хрушчова накіроўвае думкі і натхненне ўсіх работнікаў савецкай музыкі, кампазітараў і выканаўцаў на тое, каб шукаць новыя тэмы і мелодыі, народжаныя народам, знаходзіць свежыя мастацкія вобразы ў невычэрпных крыніцах жыцця.

Нам патрэбны песні і танцы розных жанраў — гераічныя, лірычныя і жартоўныя, якія раскрывалі б шматгранны характар савецкага чалавека, яго глыбокі інтэлект, паэтычнасць, шчодрасць сэрца. І мы спадзяёмся разам з аўтарамі беларускай музыкі пашырыць рэпертуар народнага хору за кошт такіх твораў.

**Г. ЦІТОВІЧ,**
**народны артыст БССР.**

## Па гарадах братняй Венгрыі

Нядаўна Беларускі дзяржаўны народны ансамбль песні і танца вярнуўся з гастролей па Венгерскай Народнай Рэспубліцы.

Мы ведалі, што Венгрыя з'яўляецца краінай высокай музычнай культуры, і гэта прымушала кожнага ўдзельніка калектыву ў часе падрыхтоўкі да гастролей працаваць творча, натхнёна і ўпарта, літаральна шліфаваць кожны канцэртны нумар.

Мы прыбылі ў Венгрыю ў самую цудоўную пару — пару цвіцення садоў. Па-веснавому было радасна ў нашых сэрцах. І было ад чаго радавацца: якраз у час нашага падарожжа ў Венгрыю мы даведаліся пра палёт у космас нашага суайчынніка Юрыя Гагарына. Гэтае паведамленне поўніла нашы сэрцы гонарам за сваю Савецкую Радзіму, за тое, што мы з'яўляемся яе прадстаўнікамі на венгерскай зямлі ў такі цудоўны час.

У першы дзень нашага прыезду мы захапляліся вуліцамі Будапешта, прыгажосцю яго бульвараў, архітэктурных ансамбляў і помнікаў.

Першае выступленне ансамбля адбылося ў Чэпелі — цытадэлі рэвалюцыйнага пралетарыяту Венгрыі. Гэты канцэрт асабліва запомніўся нашым артыстам. Усе вельмі хваляваліся перад яго пачаткам. Кожнага непакоіла думка: як прыме нас венгерскі глядач, ці спадабаюцца яму нашы песні і танцы?

І вось адкрываецца заслона. У зале ўспыхваюць бурныя воплескі. Гэта чэпельскія рабочыя вітаюць нас — пасланцоў краіны Саветаў — краіны, якая першай у свеце ажыццявіла палёт чалавека ў космас.

Гучыць у выкананні хору прывітальная песня народнага артыста Г. Цітовіча на венгерскай мове, і ў зале з новай сілай узнімаецца бура дружных воплескаў. Адзін нумар змяняецца другім, і кожны раз успыхваюць бурныя авацыі.

Канцэрт закончан, але публіка яшчэ доўга не разыходзіцца, апладыруючы нам. Адчуваецца, што ў гэтых воплесках выказваецца не толькі задавальненне канцэртнай праграмай, а, перш за ўсё, любоў да савецкіх людзей.

Наступныя нашы выступленні праходзілі таксама з вялікім поспехам. І нягледзячы на тое, што песні выконваліся на беларускай мове, яны заўсёды прымаліся цёпла, дзе б мы іх ні выконвалі.

Яшчэ большым поспехам карысталіся танцы. Амаль кожны нумар даводзілася паўтараць. Праўда, гледачы не крычалі «біс», у іх гэта, як мы заўважылі, не прынята, а «бісіравалі» працяглымі апладысментамі.

Вялікі поспех меў танец «Партызанская быль», пастаўлены заслужаным дзеячом мастацтва БССР П. Акулёнкам. Гэта танец пра гераічнае мінулае беларускага народа, ён даходзіў да глыбіні душы кожнага гледача, нагадваючы венгерскім патрыётам пра барацьбу супраць фашызму.

Вядома, што поспех танца залежыць не толькі ад тэмпераменту і майстэрства выканання, але і ад ідэі, якую ён выказвае. У адной з сустрэч з намі работнікі тэатра горада Сегед адзначылі гэтую рысу ў нашых харэаграфічных пастаноўках.

Апроч выступленняў у сталіцы Венгрыі ансамбль выязджаў і на перыферыю. Ён пабываў у многіх гарадах. Венгерскія гарады своеасаблівыя па архітэктуры, адрозніваюцца адзін ад аднаго планіроўкай. У іх многа прыгожых сквераў і бульвараў. Для большасці з іх характэрна наяўнасць мноства спартыўных і дзіцячых пляцовак, тэнісных кортаў, плавальных басейнаў, чысціня і ахайнасць вуліц.

Нам вельмі спадабаўся горад Сегед на беразе мнагаводнай Цісы. Гэта адзін са значных культурных цэнтраў Венгрыі, «горад сонца», як яго называюць венгры. У ім многа помнікаў — работы выдатных майстроў. На тэатральнай плошчы, на якой умяшчаецца больш сямі тысяч гледачоў, штогод у ліпені—жніўні праводзіцца Сегедская тэатральная вясна, на якую прыязджаюць майстры мастацтваў з розных краін свету.

У вольны ад канцэртаў час калектыў ансамбля наведваў гістарычныя месцы і музеі, знаёміўся з мастацтвам венгерскага народа. Неяк вечарам мы з асалодай паглядзелі венгерскі балет на лёдзе.

Было наладжана нямала сустрэч з работнікамі мастацтва і культуры. На сустрэчы з Венгерскім народным ансамблем мы бліжэй пазнаёміліся з яго песнямі і танцамі. Пагаварылі аб рэпертуары, пацікавіліся тым, як нашы сябры папаўняюць рэпертуар новымі творамі. Нам яны расказалі, што ў брыгаду, якая выязджае ў сельскую мясцовасць для выяўлення народных танцаў, уключаюць кінаапаратара, які здымае танцы так, як іх выконвае народ, і пасля гэтага танцы апрацоўваюцца для сцэны майстрамі харэаграфіі. Такая практыка, мне здаецца, заслугоўвае ўвагі. Мабыць, і нашым творчым арганізацыям і дамам народнай творчасці варта рабіць гэта.

Месяц, вядома, не вельмі вялікі час, але за гэты час калектыў абслужыў больш дваццаці тысяч гледачоў, пазнаёміў іх з народным мастацтвам Беларусі.

Наша знаходжанне ў Венгрыі не было звычайнай гастрольнай паездкай. Яно, як адзначалі венгерскія таварышы, сапраўды з'явілася важнай падзеяй у культурным жыцці Венгерскай Рэспублікі, яшчэ адной ніткаю, якая змацоўвае дружбу нашых народаў.

**Г. ПАНОЎ,**
**артыст хору Беларускага народнага ансамбля песні і танца.**

Выступленне Беларускага народнага ансамбля песні і танца ў Будапешце. Фота Г. Фралова.

## Пра нашага цудоўнага сучасніка

Думкі, выказаныя ў артыкуле М. С. Хрушчова «Да новых поспехаў літаратуры і мастацтва» знайшлі жывы водгук у гродзенскіх мастакоў. Мікіта Сяргеевіч падкрэслівае веліч задач, вырашаць якія мы ўсе заклікаеы ў меру сваіх сіл і здольнасцей. Быць не абыякавымі сузіральнікамі, а актыўнымі ўдзельнікамі гістарычных здзяйсненняў свайго часу, памнажаць духоўнае багацце свайго народа — ці можа быць больш высакародны і пачэсны абавязак!

За апошнія гады мастакі Гродзеншчыны дамагліся пэўных творчых поспехаў. Было праведзена дзевяць абласных выставак, на якіх экспанаваліся палотны разнастайнай тэматыкі і розных жанраў. На апошняй рэспубліканскай выстаўцы выяўленчага мастацтва наш калектыў экспанаваў 17 палотнаў.

Аднак трэба прызнаць, што мы яшчэ слаба звязаны з жыццём, не праяўляем неабходнай настойлівасці ў адкрыцці новага жыццёвага матэрыялу, ва ўдасканаленні майстэрства.

Мы павінны цалкам прыняць у свой адрас заўвагу Мікіты Сяргеевіча аб тым, што савецкім мастакам трэба глыбей вывучаць жыццё, знаходзіць у ім узоры цудоўнага, прыклады ўзлёту чалавечай думкі і высокага творчага натхнення. Час патрабуе ад нас яркіх рэалістычных твораў, смелых пошукаў і дзярзанняў.

Шырокія магчымасці для творчага размаху кожнага мастака дае падрыхтоўка да Усесаюзнай выстаўкі выяўленчага мастацтва, якая павінна адкрыцца ў Маскве напярэдадні XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Гродзенскія мастакі таксама рыхтуюцца дастойна сустрэць гістарычны з'езд Камуністычнай партыі. Большасць членаў нашага творчага калектыву праяўляе выключную цікавасць да сучасных падзей, да жыцця і працы рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі.

В. Савіцкі збірае эцюдны матэрыял, распрацоўвае эскіз для карціны, прысвечанай будаўніцтву азотна-тукавага завода ў Гродна. Гэта адна з буйнейшых новабудоўляў рэспублікі.

А. Кох мае намер экспанаваць партрэты перадавых людзей вобласці — Герояў Сацыялістычнай Працы даяркі М. Занеўскай і ткачыхі М. Чакель.

Некалькі палотнаў нашых мастакоў прысвячаюцца абароне Брэсцкай крэпасці. На гэтую тэму пішуць зараз мастакі Д. Парахня, Г. Старалаўнікаў, М. Плужнік.

Мастак К. Пятроў рыхтуе серыю графічных лістоў «Гродна будуецца».

Эскіз карціны аб людзях нашых калгасаў распрацаваў мастак А. Арнаутаў.

Мастакі І. Сямёнаў, С. Сілуянай і С. Агнёў працуюць над эскізам палітычнага плаката да XXII з'езда партыі.

Мы мяркуем у бліжэйшы час арганізаваць выстаўку твораў мясцовых мастакоў у калгасе імя Сталіна Гродзенскага раёна. (У мінулым годзе такая выстаўка была праведзена ў калгасе «Гвардыя» Берастовіцкага раёна). Падабраны палотны, якія будуць там экспанавацца.

У планах Гродзенскага аддзялення Саюза мастакоў БССР — адкрыццё справаздачных выставак асобных мастакоў.

Многа мы павінны яшчэ зрабіць для павышэння ідэйна-эстэтычнага ўзроўню нашай творчасці з тым, каб лепш задавальняць высокія запатрабаванні народа.

Наш абавязак — аказваць творчую дапамогу народным умельцам. Нядаўна абласны Дом народнай творчасці правёў семінар народных умельцаў, сярод якіх выяўлены надзвычай здольныя людзі.

Значных поспехаў дамогся самадзейны скульптар А. Ліпень, які працуе над партрэтам перадавой свінаркі Г. Ракуць. Цікавыя работы рэзчыка па дрэву С. Быка, мастака з Навагрудка Г. Кузняцова і іншых.

Час патрабуе ад кожнага з нас нястомнага ўдасканалення майстэрства. Трэба працаваць больш, лепш, з сапраўды высокім натхненнем, каб ствараць палотны, вартыя нашай велічнай эпохі. Да гэтага заклікае нас Камуністычная партыя, у гэтым галоўны змест артыкула М. С. Хрушчова.

**І. ПУШКОЎ,**
**мастак.**

Гродна

